Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 5 лютага 1932 г. № 5 (30)

Лекцыйная Камісія Беларускага Навуковага Т-ва арганізуе КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ даступныя для ўсіх

## Популярна - Навуковыя Лекцыі.

У гэту нядзелю, 7-га ЛЮТАГА, будуць прачытаны дзьве лекцыі:

1) Уплыў фізычна-геаграфічных варункаў на вытварэньне беларускага тыпу. — Д-р М. Ільяшэвіч.

2) Пясьнярка-барацьбітка. (Жыцьцё і творчасьць „Цёткі“). — Ант. Луцкевіч.

Лекцыі чытаюцца ў Салі Віленскае Беларускае Гімназіі (ВОСТРАБРАМСКАЯ 9).

Пачатак у 6 гадз. вечара — Уваход вольны і бясплатны.

# НЕСЬМЯРОТНЫЯ.

У нумары 340 выдаванае ў Менску „Зьвязды“ з 24 сьнежня 1931 г. бальшавіцкае „начальства“ б'ець трывогу: „Караул! Закатаваная, замучаная Беларусь ускрасае!“

Прычына трывогі—тое, што па ўсей Савецкай Беларусі, ня гледзячы на срогую забарону „начальства“ з Масквы, дагэтуль ставілася праз недагляд фільма, на якой прадстаўлены *тварцы культурных установаў і арганізатары творчае культурнае працы ў БССР* — з замучаным у ГПУ, даведзеным да самагубства, прэзыдэнтам Беларускае Акадэміі Навук *праф. Ігнатоўскім* на чале.

Савецкія казённыя пісакі ажно пеняцца ад абурэньня, пералічаючы імёны ведамых беларускіх культурнікаў, паказаных на фільме:

„... Чорнасоценец і вялікадзяржаўнік акадэмік Карскі.

„... Прэзыдэнт Белар. Акад. Навук Ус. Ігнатоўскі. Сядзіць на шырокім прэзыдэнцкім крэсьле, і губы хінуцца ва ўхмылку *здрадніка*.

„... Некрашэвіч, віцэ-прэзыдэнт. Неадменны сакратар Ластоўскі. Акадэмік Лёсік. Акадэмік Шыпіла, яго пальцы і фрак упрыгожаны пярсьцёнкамі з рубінамі і пераліўнымі ланцужкамі.

„... Рэстаўрацыя старажытных гаршчкоў. Група „навуковых“ работнікаў нацдэмаў геолёгічнага музэю склеівае старажытныя, спарахнелыя гаршчочкі, падбірае чарапок да чарапка. І гэта робіцца з такой адданасьцю, з такой шчырасьцю, нібы склеены гаршчочак вырашае гіганцкую проблему навукі.

„... Акадэмік Ластоўскі з вялізарным зубам мамантa. Бюст беларускага... рэвалюцыянэра Каліноўскага.

„І ўсё гэта пад „кіна-шапкай“ — „Культура Савецкай Беларусі“ (?!). І ўсё гэта *ў лістападзе і сьнежані 1931 году* на экране ў Жлобіне, Старых Дарогах, Слуцку і Рагачове.

„Як папала гэта ваяўнічая нацдэмаўская контррэвалюцыя на савецкі экран у канцы 1931 году? Чыя рука ўваскрасіла... гэроеў нацыянал-фашызму, аднакашнікаў маршала Пілсудскага, гандляроў славай, гандляроў рабочай крывёй?“

Мы падалі гэты адрывак з гістэрычнае стацьці савецкага афіцыёза не затым, каб з ім разам шукалі „праступную руку“, неагледна выдаўшую з кіноскладаў гэтую „крамольную“ фільму,— хоць і гэты факт выдачы сам па сабе характэрны. Нас цікавіць другі бок справы, аб чым „начальства“ спрытна маўчыць.

Гэты другі бок — *адносіны беларускіх працоўных масаў Жлобіна, Старых Дарог, Слуцка, Рагачова і іншых мест*, у якіх паказывалі фільму „Культура Савецкай Беларусі“ з пералічанымі заслужонымі культурнымі дзеячамі, якіх „начальства“ усьцяж кляйміць, як аднадумцаў Луцкевіча, Астроўскага і іншых барацьбітоў за беларускую справу з Зах. Беларусі. Тое, што *фільму паказывалі ў працягу двух месяцаў*, і толькі ў самым канцы сьнежня *„начальства“ даведалася* аб гэткай „нацдэмаўскэй контррэвалюцыі“, ці-ж гэта не найлепшы доказ, што *беларускія работнікі не дагледзілі ў фільме нічога варожага да іх*, што да паказаных на фільме беларускіх культурнікаў, ня гледзячы на іх арышты і высылку, адносяцца з належнай ім пашанай, што *бачаць у Ігнатоўскім і ягоных супрацоўніках сваіх духовых павадыроў?* Бо-ж ніводзін з глядзеўшых на фільму беларусаў і не падумаў данасіць „начальству“ аб „крамоле“. Бо беларускі народ і навязанае яму Масквой „начальства“ — гэта дзьве *ўзаемна чужыя сабе сілы*, між якімі змаганьне, хоць мо' сяньня й ціхое, ішло, ідзе і будзе йсьці датуль, пакуль Савецкая Беларусь ня станецца для яе грамадзян запраўды *Нацыянальным Беларускім Домам.*

Гэта разумее „начальства“. І дзеля гэтага ажно шалее й пеніцца ад злосьці: *бо-ж над душамі беларусаў сілай кулака запанаваць немагчыма*, а імёны мучаніка за беларускую справу праф. Ігнатоўскага і ягоных аднадумцаў сталіся для ўсяго нашага народу *несьмяротнымі.*

---

Наша стацьця пад назовам „Лепей позна, чым ніколі“, зьмешчаная ў № 3 „Бел. Звону“ і прыпомніўшая грамадзянству ведамую ўсім, бо надрукаваную ў 1921 годзе ў „Крыніцы“, заяву кс. Станкевіча, з якое відаць, што ён заўсёды быў **незалежнікам**, толькі **не беларускім, а літоўскім**, — выклікала з ягонага боку новую агідную лаянку па адрасу грам. Луцкевіча, якому кс. Станкевіч прыпісывае аўтарства стацьці. Павадыр Хадэцыі мае сьмеласьць называць „даносам“ напамінаньне аб ягоных старых грахох, **робленых адкрыта і публічна**, прычым адначасна сам-жа даносіць польскім уладам, што быццам грам. Луцкевіч „быў блізкі з камуністамі“ (як ведама, суд гэты данос ужо двойчы адкінуў, як ілжывы,) і што **не камуністы здрадзілі беларускую справу** і тут, і ў Менску, а наадварот: **беларусы „здрадзілі“ камуністаў...** Не здаволіваючыся і гэтым, кс. Станкевіч перадруковывае ў сваёй „Крыніцы“ ўсю ілжу з аднаднёвак Акіньчыца ды з свае ўласнае галавы (аб Тарыбе, немцах, Балаховічу, Ладнове і г. д.) і падае **сфальшаваны** тэкст паказаньня грам. Луцкевіча на працэсе Грамады, хаця паказаньне гэтае было надрукована ў акце абвінавачаньня і публічна прачытана на працэсе — ведама-ж, без **дароблекае** кс. Станкевічам ідыотычнае заявы, быццам грам. Луцкевіч назваў сябе „беларусам-паляком“ (такой нацыянальнасьці няма!). Урэшце, кс. Станкевіч прыпісывае грам. Луцкевічу тое, што рабіў у „Wydziale Bezpieczeństwa“ якраз „ціхі“ супрацоўнік Хадэцыі Акіньчыц, і заканчывае свае глыбока антымаральнае выступленьне лаянкай па адрасу грам. Луцкевіча — у стылю Ярэміча і ягонага кума Валэйшы.

Вясьці палеміку з кс. Станкевічам ні грам. Луцкевіч, ні наша Рэдакцыя — ня зьбіраецца. Чалавек, які—безпасярэдна пасьля слуцкага паўстаньня за Незалежную Беларусь—публічна абвясьціў сваё палітычнае „крэдо“ („верую“): **„незалежнасьць Літвы з магчыма найбольшай беларускай тэрыторыяй“**, — а цяпер кажа, што гэтае „крэдо“ **можна розна тлумачыць**, — сам ужо **засудзіў і свае „крэдо“, і — сябе самога.**

---

# Дзьве прамовы.

У папярэднім нумары мы зьмясьцілі стацьцю, якая сьцьвярджала неабходнасьць перабудовы польскае дзяржаўнае палітыкі, абапертае цяпер на клясе **буйных зямляўласьнікаў**, у такім кірунку, каб у цэнтры гэтае палітыкі былі пастаўлены інтарэсы **селяніна**. Сягоньня мы падаем зьмест прамоваў двух польскіх міністраў, з якіх нашы чытачы самі могуць зрабіць вывады аб **паглядах ураду** на паднятую намі справу найвялікшае дзяржаўнае вагі.

---

Як інформуе абшарніцкае „Słowo“, міністар зямляробства п. Янта - Полчыньскі сказаў на паседжаньні бюджэтнае камісіі вялікую прамову, у якой сьцьвярдзіў, што — **незалежна ад сытуацыі, якая выклікана сусьветным крызісам, выплатнасьць зямляўласьнікаў** („wypłacalność rolnika) **усьцяж зьмяншаецца з прычыны нястачы даходаў і нарастаньня даўгоў і выплат.** Вось-жа ўрад лічыць сваім абавязкам **ратаваць „загрожаныя рольныя варштаты“** (дворныя гаспадаркі) і дзеля гэтага ўтварыў тры камісіі. Камісія, утвораная пры міністэрстве скарбу, павінна ў хуткім часе падаць праект датарнаваньня вышыні выплат зямляўласьнікаў да іх аплатных магчымасьцяў. Другая камісія—пры міністэрстве справядлівасьці — апрацуе плян рэформы спаганяньня даўгоў з зямляўласьнікаў, прымаючы пад увагу, між іншым, той факт, што пры цяперашнім стане банкі толь-

кі пад націскам ураду згаджаюцца працаваць з зямляўласьнікамі (даваць ім пазыкі). Трэцяя камісія—пры міністэрстве зямляробства—займецца арганізацыяй ваяводзкіх камісіяў, каторыя будуць пераймаць „pod swoją dyspozycję“ гаспадаркі, якія яшчэ можна ўратаваць. Панад гэтымі трыма камісіямі будзе стаяць чацьвертая—пры прэзыдыуме рады міністраў, каторая мае аб'яднаць і ўзгодніць працу трох камісіяў пры міністэрствах.

---

А вось другая прамова—аб школьніцтве, сказаная міністрам асьветы п. Енджэевічам. У гэтай прамове быў выясьнены стан школьнае справы ў Польшчы і тыя задачы, якія стаўляе сабе ўрад у галіне культурна-асьветнае дзейнасьці.

Пан міністар заявіў, што фінансавы крызіс змусіў урад да такое эканоміі, што ў выніку яе **больш 300.000 дзяцей у школьным веку асталіся па-за сьценамі школы.** Як піша апазыцыйная прэса, дык і гэта лічба, сама па сабе жудасная, мае быць няпоўная (паводле ўкраінскіх газэт сёлета не папала ў школы ажно 700.000 дзяцей...). А тымчасам лічба дзяцей, дайшоўшых школьнага веку, расьце вельмі шыбка і сёлета павялічылася на 350 000. Лічба вучыцялёў зьменшана на 1,458 асоб. Далейшых ашчаднасьцяў у гэтай галіне рабіць ужо нельга, бо гэта — паводле слоў п. міністра—было-б раўназначна з разваламі школьніцтва ў Польшчы.

Менш пацярпелі ад палітыкі ашчаднасьцяў прафэсіянальныя школы: лічба вучняў і вучыцялёў у іх, дасягаўшая 200.000, паменшылася толькі на 5 000.

П. міністар доўга даводзіў патрэбнасьць гэтак-званага „дзяржаўнага ўзгадаваньня“ моладзі, у якім асаблівае месца павінна заняць буджэньне пашаны да асобы марш. Пілсудзкага, як да польскага нацыянальнага героя, ускрасіцеля Польскае Дзяржавы. **Але аб справе школьніцтва нацыянальных меншасьцяў ніраўнік міністэрства асьветы не сказаў нічога,** прыпомніўшы толькі, што аб гэтым ужо гаварыў міністар унутраных спраў п. Перацкі.

# Лятуценьні манархістаў.

## „Цар Кірыла I“—аб „будучай Савецкай... Усерасейскай Манархіі“.

Былы вялікі князь Кірыла Уладзіміравіч, які, як ведама, абвясьціў сябе „царом Кірылам I“, на сабраньні сваіх прыхільнікаў зрабіў сэнсацыйную дэклярацыю дзеля пашырэньня яе ў СССР. У гэтай дэклярацыі „цар Кірыла“ востра атакуе — як „гнілы капіталізм“ і бяссільны дэмакратызм Захаду, таксама і зьненавіджаны ўсім сьветам, асабліва-ж у СССР, бальшавіцкі камунізм. Але камунізм адыграў ужо сваю дадатную гістарычную ролю тым, што падрыхтаваў грунт дзеля **павароту манархіі ў СССР.** Па згоне камунізму астанецца аднак-жа **савецкі лад,** да якога прывыклі народы СССР. Такім чынам **будучая манархія ў Расеі абапрэцца на саветы,** якія будуць формай шырокага мясцовага самаўраду. Але да таго-ж цар Кірыла абяцуе навет прадаўжаць нацыянальную палітыку Сталіна, якая ёсьць найлепшым спосабам утрымаць адзінства расейскае імпэрыі... Толькі ў ёй будзе зьменена дробязь: кожная нацыянальная „рэспубліка“ СССР будзе перароблена на манархію. Такім чынам — на Украіне сядзе на трон... гэтман Скарападскі, у Татарыі будзе хан, у Грузіі — цар, у Хіве і Бухары — эміры і г. д. Усе гэтыя „нацыянальныя савецкія манархіі“ маюць быць сфэдэраваны ў адзіную „савецкую імпэрыю“...

З асаблівым захопленьнем цар Кірыла казаў у дэклярацыі аб... Гітлеры дый гітлераўскім руху, „нацыянал-соцыялістычныя“ ідэі якога трэба будзе палажыць у аснову будучай „савецкай манархіі ў Расеі“.

Як бачым, на зьмену сучаснаму саюзу паміж камуністычнай Расеяй і рэспубліканскай Нямеччынай падрыхтоўваецца новы саюз між будучымі „манархіямі“ — „нацыянал-соцыялістычнай“ Гітлера і „савецкай імпэрыяй“ „цара Кірылы I“. Ці можна сказаць, што і такой дзікай спробы ня можа выклікаць тое, што робяць цяпер у СССР камуністы?

# Вайна Японіі з Кітаем.

Дыплёматы ўсяго сьвету дагэтуль яшчэ не здэцыдавалі, ці можна ўжо ўсё тое, што робіцца на Далёкім Усходзе, назваць вайной між Японіяй і Кітаем. Але японскія гарматы, кулямёты, танкі, бранявыя цягнікі, бомбы з самалётаў — згодным хорам даўно ўжо дый даволі гучна і выразна назвалі ўсё гэта адпаведным словам... Кроў ліецца ракой, тысячы ахвяраў гіне штодзень—з вялізарнай перавагай у гэтым на баку Кітаю... Разгневаная за тое, што кітайцы абвясьцілі байкот японскага гандлю ў сваей краіне — за ўсё тое, што нарабілі Японцы ў Манчжурыі, Японія выслала свой флёт у Шанхай і пад самы Нанкін, сучасную сталіцу Кітаю, ды пачала бамбардаваць гэтыя мільёнавыя месты. Калі мы пішам гэтыя радкі, дык Шанхай, найбагацейшае места Кітаю, ужо ў японскіх руках. Нанкіну высланы ультыматум: вывесьці з места кітайскія войскі. З Нанкіну выехаў цэнтральны ўрад.

---

Усе гэтыя нячувана агідныя крокі Японіі, на вачох усяго сьвету фармальна захопліваючай—„без вайны“—вялізарную краіну, выклікалі страшэннае хваляваньне сярод вялікіх дзяржаваў, падпісаўшых ведамую „вашынгтонскую ўмову“ аб нятыкальнасьці і цэласьці кітайскай тэрыторыі.

Амэрыка, якая дарэмна старалася „склеіць“ нейкую коаліцыю вялікіх дзяржаваў проці Японіі, апынулася ў канешнасьці выступіць самастойна... Францыя адмовілася таму, што, як піша прэса, паміж ёй і Японіяй існуе нейкая ўмова... Недарма-ж абедзьве яны—проці разбраенчай канфэрэнцыі... Англія заявіла Амэрыцы, што дагэтуль... „ня можа нічога закінуць паступаньню Японіі“... Нямеччына, хаця Амэрыка да яе, як ня маючай ані арміі, ані флёту, і не зьвярталася,—здаволена ўжо тым, што Японія так кампрамітуе Лігу Нацыяў дый стварае „прэцэдэнт“ бязкарнага пачыну вайны—без яе абвяшчэньня... А такі „прэцэдэнт“ вельмі прыдасцца ў свой час Нямеччыне... Японія, відаць, выбрала вельмі добры час...

Аднак Амэрыка выслала ўжо ў Шанхай усю сваю азіяцкую эскадру... У шанхайскіх водах стаяць ужо 7 амэрыканскіх браняносцаў, ня лічучы іншых — меншых караблёў. **У кожны мамэнт можа здарыцца сутычка** паміж абыдвума флётамі і ўзгарэцца **даўно рыхтаваная вайна Японіі з Амэрыкай...**

---

На другім канцы Кітаю—у Манчжурыі—таксама Японія з задзіўляючай „адвагай“ правакуе „канфлікт“ з СССР. Японскія войскі занялі Харбін, „расейска-кітайскае места“, фактычна захапіўшы ўладу над Усходня-Кітайскай чыгункай, якая зьяўляецца ў большай частцы ўласнасьцяй СССР і знаходзіцца пад яго ўпраўленьнем.

---

Рада Лігі Нацыяў — пасьля заняцьця Шанхаю Японіяй — высілілася на „рашучы крок“: ня гледзячы на пратэсты Японіі, Рада пастанавіла распачаць — „тасаваньне § 15 Статуту Лігі“. § гэты прадбачыць магчымасьць ужо гаспадарчага, фінансавага, палітычнага байкоту, а ўрэшце навет і ваеннага націску з боку ўсіх сябраў Лігі—проці сябры, які першы распачаў ваенны напад... Але, каб не памыліцца (?), Рада Лігі пастанавіла, пакуль што... выслаць новую „надзвычайную камісію“ у Шанхай, каб дакладна даведацца, хто-ж запраўды зьяўляецца гэтым „першым напаўшым“ на сябру Лігі гвалтаўніком: ці Японія, ці можа—Кітай...

---

Заняцьце японскімі войскамі ў Шанхаі, пасьля кітайскай яго часьці, і часьці так-званых „міжнародавых концэсіяў“, дзе жывуць сотні тысяч эўрапэйцаў, урэшце зрушыла з месца і прыхільныя дагэтуль да Японіі вялікія дзяржавы. Калі ад японскага агню пачалі гарэць англійскія фабрыкі ў Шанхаі, заклапаціўся і сам Мак-Дональд. Пачаліся перагаворы паміж Англіяй, Амэрыкай і Францыяй.

Але пакуль яны здолелі паразумецца адносна да нейкага супольнага кроку, Японія папярэдзіла іх усіх: японскі міністар заявіў англійскаму, амэрыканскаму і францускаму паслам, што — „палажэньне ў Шанхаі зрабілася... для японскіх войскаў вельмі грозным і небясьпечным, бо-ж сілы кітайцаў перавысілі 30.000. Таму Японія зьвяртаецца да гэтых дзяржаваў — з прапазыцыяй... супольнай ваеннай акцыі проці кітайскіх войскаў, каб... апанаваць сітуацыю ў Шанхаі“...

Даволі сказаць, што на такую „прапазіцыю“, з боку Японіі „вялікія“ дзяржавы адказалі... рэчовымі гутаркамі аб тым, як запраўды стварыць „нэйтральныя пасы“ паміж концэсіямі ўсіх гэтых дзяржаваў (у тым ліку і японскай)—з баронячымі іх войскамі—проці... кітайскіх войск...—каб „змусіць іх да пашаны гарантаваных трактатамі міжнародавых концэсіяў у Шанхаі“...

Гэтыя „гутаркі“ паміж вялікімі дзяржавамі Заходу з Японіяй найлепш асьвятляюць нам сутнасьць таго, што робіцца на Далёкім Усходзе, найлепш тлумачаць і тую нячуваную „адвагу“, з якой Японія робіць там тое, што яна робіць... Японія бароніць у Шанхаі „концэсіі“ ўсіх імпэрыялістычных дзяржаў, якім пагражае... Кітай, які ўсьцяж рабіў і робіць дарэмныя высілкі скінуць з сябе ланцугі накіненых на яго „трактатаў“ і дабіцца нацыянальнага вызваленьня.

---

Радавы ўрад за ўсялякую цану ўхіляецца ад конфлікту з Японіяй. Пасьля доўгага апору ён урэшце згадзіўся „дазволіць“ на перавозку японскіх войскаў Усх.-Кітайскай чыгункай. „Згадзіўся“ таму, што японскія ваенныя атрады самі пачалі сілком нагружаць цягнікі і пускаць у ход, не зважаючы на пратэсты з боку радавых агентаў чыгункі...

# Конфэрэнцыя у справе разбраеньня.

Ня гледзячы на сталую апазыцыю з боку Францыі, конфэрэнцыя ў справе агульнага разбраеньня адчынілася ў назначаны дзень—2 лютага. Але перасьцярогі Францыі былі, хіба-ж, слушныя: конфэрэнцыя распачынаецца ня толькі непадрыхтаваная папярэднім паразуменьнем паміж галоўнымі вялікімі дзяржавамі, між якімі засталіся вострыя супярэчнасьці ў паглядах на галоўныя мэты і задачы конфэрэнцыі, але распачынаецца гутарка аб разбраеньні ў час, калі на Далёкім Усходзе пачалася ўжо ваенная бура, якая ў кожны мамэнт можа перакінуцца на Захад, ахапіць ураганам увесь сьвет... Бясспрэчна — Японія ўмысна прысьпяшыла зьдзейсьненьне сваіх захватніцкіх плянаў, каб папярэдзіць пастановы разбраенчай конфэрэнцыі і зрабіць апошнюю і недарэчнай, і немагчымай фактычна... Характэрна, што якраз Японія выслала ў Жэнэву найвялікшую дэлегацыю, у склад якой увайшло аж 50 адных ваенных экспэртаў.

---

Справы, якімі мае заняцца конфэрэнцыя, у істоце сваей справы палітычныя. Найцікаўнейшая, бясспрэчна, будзе ў Жэнэве дыплёматычная барацьба паміж Японіяй і Амэрыкай, пакуль яшчэ не ўзгарэлася паміж імі ваенная барацьба... Ня менш гарачай будзе барацьба за разбраеньне паміж другой парай, Францыяй і Нямеччынай. Азброеная да зубоў Францыя, як ведама, ставіць справу свайго матэрыяльнага разбраеньня ў залежнасьць ад маральнага разбраеньня Нямеччыны, ці, інакш кажучы, справы гарантыі бясьпечнасьці, ці, яшчэ інакш кажучы, гарантыі іскуючых граніц і трактатаў. З свайго боку Нямеччына трэбуе, каб дзяржавы-пераможнікі, разброіўшыя Нямеччыну, разброіліся самі. Калі не, дык і Нямеччына будзе ўжо лічыць дазволеным і сабе не споўняць загадаў трактату аб разбраеньні... Францыя гатова пайсьці на разбраеньне, але —„у меру ўстабілізаваньня бясьпечнасьці граніцаў і трактатаў“, у меру дакананага ўжо „маральнага разбраеньня“ Эўропы, чытай: Нямеччыны! Але-ж такога маральнага разбраеньня ня толькі няма, але наадварот—палітычнае напружаньне ў Эўропе, як і на Далёкім Усходзе, усьцяж расьце, пагражаючы агульным выбухам. У частцы Намеччына ўсьцяж высоўвае дамаганьне перагляду сваіх усходніх граніцаў дый на конфэрэнцыі мае паставіць гэтую справу рубам.

Ня кажам ужо аб іншых „парах“, як Францыя-Італія. якія дагэтуль ня могуць дагаварыцца аб прапорцыі сваіх марскіх сілаў, як Францыя-Англія, якіх дзеліць усьцяж нямецкая проблема. Абмінаем цалком і нязьлічаную масу іншых драбнейшых „параў“.

З усяго гэтага відаць, што запраўды хіба-ж найбольш блізкай да праўды зьяўляецца вестка з Парыжу аб тым, што конфэрэнцыя адчынілася ў назначаны час, але толькі дзеля таго, каб быць адкладзенай на неазначаны час.

# Жыцьцё Польшчы.

## Бюджэт у соймавай камісіі.

У бюджэтнай камісіі Сойму закончыўся разгляд каштарысаў паасобных міністэрстваў. Апазіцыя востра крытыкавала дзеяльнасьць ураду, але блізу не стаўляла ніякіх конкрэтных паправак (эндэцыя) да паасобных пазыцыяў міністэрскіх бюджэтаў, матывуючы гэта безнадзейнасьцяй прыняцьця паправак урадавай большасьцяй Сойму. Цяпер бюджэт разглядаецца пленумам Сойму.

## Міністар асьветы — аб праваслаўнай царкве.

У сваей прамове ў бюджэтнай камісіі міністар асьветы і рэлігійных вызнаньняў п. Енджэевіч заявіў, што ўрад—у паразуменьні з праваслаўнай іерархіяй (вышэйшымі духоўнымі ўладамі)—імкнецца да канчатковага ўрэгуляваньня палажэньня праваслаўнае царквы ў Польшчы. Пан міністар абяцаў, што сабор праваслаўнае царквы будзе скліканы ў найбліжэйшым часе.

# З украінскага жыцьця.

## „Чыстка“ ў Украінскай Акадэміі Навук у Кіеве.

Як падае Украінскае Прэсавае Бюро ў Парыжу, тамака атрыманы весткі з Кіева аб цэлым радзе рэпрэсіяў савецкіх уладаў проці ўкраінскіх гісторыкаў, якіх вінавацяць у тым, што ў сваіх навуковых працах яны праводзяць проці-савецкія, нацыяналістычныя і патрыятычныя ідэі. Шмат прафэсароў пазбаўлены займаных імі дагэтуль становішч і высланы на поўнач Расеі. Сярод высланых ёсьць быццам ведамы праф. **Міхайло Грушэўскі**, сябра Акадэміі Навук. Афіцыяльна „чыстка“ Украінскае Акадэміі Навук называецца „рэформай“ яе. Бюджэт Акадэміі зьменшаны на 60 прац., дзеля чаго спынены друк шмат якіх навуковых прац і пэрыодычных выданьняў.

# З жыцьця ў С. С. С. Р.

**„Хто больш працуе, — той больш і атрымоўвае“.** Даслоўна гэтак чытаемо ў вялікай перадавіцы, зьмешчанай у № 16 „Известий“, вядомай савецкай газэты, з дня 16 студзеня г. г.

Няўжо мае быць новы НЭП? Здаецца, „таварышы“ ня так даўно на ўвесь сьвет крычэлі аб „роўнасьці“?

Але—ці не запозна адумываюцца...

**І тут бязладзьдзе...** Да гэтага часу савецкая прэса не абвясьціла вынікаў збору ўраджаю ў мінулым годзе, што нармальна павінна было ўжо адбыцца тры месяцы таму назад. Няведама, ці гэта выклікана вядомым разгромам Цэнтральнага Статыстычнага Бюро СССР, як „гнязда шкоднікаў“, ці ўвагай на замежную апінію,—бо „калгасы“ ў скандальны спосаб падвялі „пляны“.

Таксама не абвешчаны і дадзеныя аб савецкім вывазе і ўвозе за цэлых 8 апошніх месяцаў, што калісь рэгулярна рабілася каля 20-га кожнага месяца. Відаць, нешта штораз, то горш дзеецца ў краіне Саветаў.

**Як малацілі „калгасы“.** „Правда“ ў № 16 з дня 16-га студзеня г. г. даслоўна гэтак піша: „—У рашаючых зернавых раёнах Краснаградзкім і Сахноўскім увесь час выяўляюцца рэзультаты праступных адносінаў да малацьбы: выкрыта, што ў стагох абмалочанай саломы ў калхозе „Чырвоны Партызан“ пакінута 25 прац. усяго ўраджаю зерня. — У калхозе імя Молатава частка зярнятаў засталася ў саломе, якая выкарыстана, як апал, у цэлым радзе калгасаў. У Сахноўскім раёне ў саломе, вызначанай на апал, выкрыта ад 30 да 35 прац. нявымалачаных зярнятаў“ і т. д.—ідзе вылічэньне паасобных калгасаў.

Вось да чаго вядзе аграрная „рэвалюцыя“ і заганяньне сялянства да працы пад прынукай...

# З усяго сьвету.

## Да румынска-савецкіх перагавораў.

Румынская прэса сцьвярджае, што перагаворы аб заключэньні трактату ўзаемнага ненападаньня з Радамі — не сарваны, але толькі прыпынены. Перагаворы могуць быць у кожны мамэнт узноўлены, як толькі будзе знойдзена магчымасьць так ці інакш абыйсьці ў трактаце спорную справу Бэсарабіі.

## „Нацыяналісты і гітлераўцы проці „свайго“ Гіндэнбурга.

Характэрнае палажэньне стварылася ў Нямеччыне ў сувязі з блізкімі ўжо выбарамі прэзыдэнта рэспублікі. Нямеччына падзялілася на два варожыя лягеры. Першы лягер, які гуртуе ўсе рэспубліканскія партыі і групы, галасаваўшыя 7 гадоў таму проці Гіндэнбурга, як кандыдата монархістаў, цяпер прапануе пакінуць Гіндэнбурга бяз выбараў на становішчы прэзыдэнта — шляхам спэцыяльнага закону — на далейшае 7-лецьце. Другі лягер аб'яднаў усіх тых монархістаў, якія 7 гадоў таму выбралі Гіндэнбурга прэзыдэнтам, а цяпер, закідаючы Гіндэнбургу здраду монархіі на карысьць рэспублікі, высоўваюць свайго кандыдата, бадай ці ня — Гітлера...

Як ведама ўжо, большасьці ў парляманьце, патрэбнай для правядзеньня такога закону, не стварылася—з прычыны адмовы з боку нацыяналістаў і гітлераўцаў. Таму абодва „лягеры“ распачалі акцыю падрыхтоўкі да выбараў. Лягер монархістаў ня выставіў яшчэ свайго кандыдата, але пагрозу правалу Гіндэнбурга лічаць у Нямеччыне зусім рэальнай.



# ХРОНІКА.

— **Ад Рэдакцыі.** У папярэднім нумары была надрукована карэспандэнцыя з Парэчча пад Горадняй (Porzecze k/Grodna) — у польскай мове. Мы далі яе ў такім відзе, як атрымалі (папольску), бо яна паказывае, што фактам зьдзеку начальніка станцыі над праваслаўным беларусам так глыбака абурыўся прадстаўнік „пануючае нацыі“, каторы і зьвярнуўся з пратэстам у беларускую газэту ў сваей роднай польскай мове. Яго хіба ў „беларускім шовінізьме“ нельга будзе абвінаваціць!

Рэдакцыйнае выясьненьне матываў падачы карэспандэнцыі ў польскім орыгінале праз недагляд аднаго з працаўнікоў не папала ў газэту, дык падаем яго цяпер.

— **„Nowy“ i „najnowszy“ kurs polityki polskiej w sprawie białoruskiej.** Wilno, 1932. (Odbitka z „Przeglądu Wileńskiego“). Толькі што выйшла ў польскай мове вельмі цікаўная брашурка **Сулімы** пад гэткім тытулам. Брашурка дае вельмі правільны разгляд прычын рэзкае зьмены польскае палітыкі ў адносінах да беларускіх нацыянальных імкненьняў, — зьмены ў кірунку выразна непрыхільным. Асаблівы націск робіць аўтар на ролю трагічна памершага пасла Т. Голубкі, аднаго з найвыдатнейшых павадыроў В. Б. і на ўплыў радыкальнае зьмены адносінаў да беларусаў у БССР.

Кожын, хто хоча ведаць праўду аб польска-беларускіх адносінах, павінен гэту брашурку прачытаць. Набыць можна ў Беларускай Кнігарні, Вострабрамская 1. Цана—50 гр.

— **Спэнтакль - вечарына на незаможных вучняў ВБГ.** У гэту суботу, 6 лютага, у Салі Віленскае Беларускае Гімназіі Бацькаўскі Камітэт ладзіць спэктакль-вечарыну на карысьць незаможных вучняў. У праграме — п'еса ў 3-х актах **„На парозе справы“**, дагэтуль яшчэ ня стаўленая на нашай сцэне, а пасьля спэктаклю—танцы. Пачатак у 8 гадз. вечара. Цана білетаў ад 1 да 2 злот.

Спадзяемся, што беларускае грамадзянства ўсіх кірункаў падтрымае ініцыятыву Бацькаўскага Камітэту, бо-ж у Гімназіі вучацца дзеці ўсіх беларусаў, незалежна ад палітычнае „фірмы“ іхніх бацькоў.

— **Падзяка.** Дырэкцыя В. Б. Гімназіі дзякуе Найасьвячэньшаму Архіяпіскапу Хвядосу за прысланую ахвяру ў ліку 100 злот. на дапамогу незаможным вучням.

— **Дзьве лекцыі.** Напамінаем нашым чытачом, што ў гэту нядзелю, 7 лютага, ад-

# Ускросшыя абразы.

*(Успамін з часоў нямецкае окупацыі).*

У часе сусьветнае вайны, калі гінулі кожын дзень тысячы сільных, здаровых маладых людзей,—чарствелі душы людзкія, камянелі сэрцы, рабіліся нячулымі на людзкое гора й боль.

У параўнаньні з тым, што рабілася на палёх бітв, нейкай драбніцай выдавалася сьмерць нейкага адзінокага старыка на акраінах Вільні, які паміраў там—проста з голаду...

А колькі разоў—падчас нямецкае окупацыі —можна было бачыць на цэнтральных вуліцах гэткія сцэны:

Ідзе нейкі чалавек. Раптам пахіснууся, упаў. Твар бляды—вочы заплюшчаны. Памірае...

Зваліў яго з ног — голад.

І публіка спакойна праходзіць міма канаючага. Кожын ведае, што нічым памагчы ня здолее. Спачатку абураецца на гэту жудасьць, — але пасьля махае рукамі: сягоньня ты, заўтра — я...

Часам хтось гарачэйшы заалярмуе нямецкага паліцыянта. Той прыдзе, паглядзіць і — пойдзе. Мае загад: паміраючых з голаду не ратаваць, бо ж іх прыдзецца карміць. А карміць няма чым...

Такія сцэны былі сталым зьявішчам на парадку дня. Падбіраць трупы адзінокіх людзей, гінуўшых на акраінах места ў сваіх „уласных“ хатках—ад голаду, **конная** карэтка скорае помачы не пасьпявала. Немцы далі на гэта—**аўтамабіль.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Многа год уцякло з таго часу. Шмат хто і забыўся, што некалі бачыў усё гэта сваімі вачыма. Толькі нейкае новае здарэньне, якое балюча ўдарыць па нэрвах, раптам напомніць аб мінулым, ускрасіць стары жудасны абраз.

Так аўтару гэтых радкоў ускрасіла у памяці апісаныя вышэй абразы хронікёрская заметка „Słowa“ з 31 студня с. г.:

„Учора ў рытуальнай лазьні ў Ашмяне знойдзены труп 77-гадовага Пётры Усоньскага, па прафэсіі будаўлянага работніка, у апошнім часе **безработнага і бяздомнага..** Усоньскі начаваў у лазьні і памер уначы ад паралiжу мазгоў...

„На полі в. Ашмянкі, ашмянскае гміны, знойдзены труп нейкага Гулецкага Сьпірыдона, **безработнага.** Як выясьнена, Гулецкі памер ад вынішчэньня арганізму. Як апавядаюць жыхары гэтае вёскі, нябожчык быў некалі заможным гаспадаром ды ў апошнія гады зусім згалеў і жыў жабруючы — разам з хворай жонкай і дзіцём. **Памер з голаду**“...

Так робіцца ў мірны час. А рэдакцыя газэты, выдаванай людзьмі сытымі і здаволенымі, зьмяшчаючы гэткую вестку недзе на канцы нумару, праходзіць над жудаснымі фактамі—моўчкі...

Так моўчкі праходзіў здаровы, сыты нямецкі паліцыянт над канаючымі ад голаду на вуліцах Вільні пятнаццаць гадоў назад....

**В. Каліноўскі.**

# Гаспадарчы аддзел.

## Больш увагі агароду.

Якое вялікае значэньне для дробных гаспадароў мае агарод, хіба ня трэба даводзіць. Асабліва значэньне мае ён для тых гаспадарак, дзе ёсьць лішак рабочых рук. Аднак, такія агароды, якія маюць большасцю нашыя сяляне, даюць ня шмат карысьці. Перш за ўсё, у агародзе з году ў год на адным месцы садзяцца тыя самыя расьліны. Зразумела, што пры такім палажэньні расьліны ня толькі кепска растуць, але і хварэюць на рожныя хваробы. Дзеля гэтага, якім-бы малым агарод ня быў, трэба яго разьбіць на парцэлькі і вясьці правільнае чаргаваньне расьлінаў ці іначай — правільны севазварот. У залежнасьці ад таго, якое мейсца ў севазвароце могуць заняць розныя агародныя расьліны, іх можна падзяліць на 3 групы: 1) расьліны, патрабуючыя сьвежага ўгнаеньня, 2) расьліны, якія добра растуць на леташнім гнаі і 3) расьліны, якія заспакойваюцца глебаю, пагноенай 2 гады таму назад. Да першае групы адносяцца ўсе капусты, калярэпа, памідоры, агуркі, салеры, поры — усе патрабуюць сільнага гнаеньня хлеўным гноем. Да другое групы адносяцца ўсе карэньплоды і цыбулястыя буракі, цыбуля, морква, бульба. Іх можна садзіць на другі год на хлеўным гнаі. Да трэйцяй групы належаць усе матылякветныя, як фасоля, гарох, боб. Вось-жа, стасоўна да вышэйнаведзенага падзелу і трэба разьбіць агарод на 3 парцэлькі і вясьці правільны севазварот.

Другою важнаю ўмоваю ёсьць *узрошчваньне* раньняе расады. Бяз раньняе расады гарод нічога ня варты. Перш за ўсё, для многіх агародных расьлінаў цёплая пара году ў нашым краю закароткая. Узрошчваньнем раньняе расады ў парнікох мы гэтую пору павялічваем, а знача даём магчымасьць расьлінам належна разьвіцца.

Падругое, многія агародныя расьліны хутчэй вырастуць і іх раней можна карыстаць для сябе, або сходна прадаць, бо раньняя гароднiна мае куды большую цану, чым позьняя. Апрача гэтага, калі ёсьць раньняя расада, можна раней засадзіць агарод — гэта знача тады, калі звычайна нам толькі пачынае прарастаць расада. У гэты час у глебе шмат зімовае вільгаці, якую расьліны могуць выкарыстаць.

Для вырошчваньня раньняе расады найбольшае застасаваньне маюць парнікі, ці інспэкты. Апрача гэтага ў інспэктах можна выганяць раньнюю гародніну. Апошні спосаб можа быць асабліва аплачваны ў мейсцох, знаходзячыхся паблізу мест і мястэчак. Для расады парнікі (інспэкты) закладаюцца ў канцы месяца сакавіка. Калі-ж маем на мэце выганку ў парнікох раньняе гародніны, то закладаць іх трэба значна раней.

Выбар мейсца пад парнікі мае важнае значэньне. Трэба, каб да гэтага мейсца мела доступ сонца, каб яно было заслонена ад поўначы, усходу і захаду

Парнік (інспэкт) прадстаўляе сабою яму, шырыня якое бывае часьцей $1^1/_2$ мэтры, а глыбіня 50—60 цэнт. і больш, у залежнасьці, калі парнік закладаем. Чым раней закладаецца парнік, тым глыбейшую капаюць яму. На дно ямы даецца гарачы конскі гной, а на яго ставіцца скрыня з дашчок—з такім разрахункам, каб бок яе, зьвернуты на поўнач, стаяў на некалькі цэнтыметраў вышэй ад боку, зьвернутага на поўдзень, і каб верхні край скрыні высоўваўся некалькі цэнтымэтраў над паверхняю зямлі. Такім чынам творыцца нахіл з поўначы на поўдзень. Далей скрыня таксама рыхла да верху накладаецца конскім гноем, прыкладаецца дошкамі, а зьверху яшчэ прыкрываецца матамі. Пасьля 2—3 дзён, калі гной у парніку добра сагрэецца, у скрыні гной раўняюць і зьлёгка ўціскаюць; потым насыпаюць зямлі вышынёю ў 20—30 цэнтымэтраў, прыкрываюць шклянымі вокнамі і зьверху яшчэ матамі. Калі зямля ў парніку прасохне (праз 2—3 дні), зямлю выраўніваюць і дасыпаюць, калі яе замала, і ізноў прыкрываюць вокнамі і матамі. Пачакаўшы яшчэ 2—3 дні, можна ўжо ў парніку засеяць. Зямлі і гною ў парнік даецца з такім разрахункам, каб паміж паверхняю зямлі і вакном заставаўся прастор у 10—15 цэнтымэтраў. Прастор, які знаходзіцца ў зямлі наўкола скрыні (дзеля таго, што яма капаецца шырэй за скрыню), выпаўняецца таксама гноем або лісьцямі.

Калі гарачага гною для набіваньня парнікоў замала, то перад набіваньнем халодны конскі гной складаюць у кучы, палажыўшы ў сярэдзіну трохі гарачага гною. У кучах гной павінен сагрэцца. Калі і пасьля гэтага сагрэецца кепска, то ў некалькіх мейсцох паліваюць яго гарачаю вадою або закладаюць у сярэдзіну нагрэтыя камяньні. Найлепшым гноем для набіўкі парнікоў ёсьць гной конскі. Можа быць ужыты для гэтае мэты таксама гной авечы і казіны.

Землі, якія даюць у парнікі, засадніча бываюць трох гатункаў: 1) парнікова-гнойная, 2) парнікова-кампоставая, 3) парнікова-дзерновая.

Зямля парніковая прадстаўляе сабою ў большай часьцы перагніўшы добра конскі гной.

Зямля парнікова-кампоставая прадстаўляе сабою перагніўшыя розныя арганічныя гнаі з дабаўкаю гліны, вапны і хлеўнае жыжкі.

Зямля парнікова - дзерновая ёсьць добра перагніўшаю мешанінаю арганічных гнаёў і дзярна з гліністае глебы.

Добраю зямлёю для парнікоў зьяўляецца таксама зямля, якая складаецца з 2 частак добра перагніўшага дзярна і 1 часткі перагніўшых лісьцяў.

У ўмовах нашае вёскі закласьці парнік амаль што нічога не каштуе, бо ў гаспадарцы маем свой гной і на скрыню такія-сякія дошкі знойдуцца. Каштаваць будзе толькі шкло для рамы, якою прыкрываецца парнік, але і тут можна заашчадзіць, ужыўшы бракоўнага шкла з розных кускоў. Тыя гаспадары, якія ня ўсілах адразу абзавясьціся шклянымі рамамі, могуць замест шкла ўжыць паперу. Для гэтае мэты трэба ўжываць паперу белую, па магчымасьці прасьветную, якую яшчэ трэба пацягнуць разы 2—3 пакостам. Да рамаў папера прыклейваецца рыжовым кляйстрам і добра высушваецца. Іншага кляйстру ўжываць нельга, бо ад дажджу лёгка размакае і ня трымае добра.

будуцца ў салі В. Б. Гімназіі першыя дзьве лекцыі, ладжаныя Лекцыйнай Камісіяй Беларускага Навуковага Т-ва. Чытаюць: **д-р М. Ільяшэвіч** (Уплыў фізычна-геаграфічных варункаў на вытварэньне беларускага тыпу) і **Ант. Луцкевіч** (Песьнярка-барацьбітка. Жыцьцё і творчасьць „Цёткі“). Пачатак у 6 гадз. вечара. Уваход вольны і бясплатны.

У працягу лютага будуць прачытаны гэткія лекцыі: інж. Ант. Трэпкі — з цыклю „Цуды тэхнікі“; Хв. Ільяшэвіча—аб творчасьці Ядвігіна Ш. з ілюстрацыямі (у 10-тыя ўгодкі сьмерці пісьменьніка); Ул. Самойлы—аб беларускім мастацтве.

— **Лекцыя д-ра Чарнецкага.** 30. I. 32 г. у Віленскім Унівэрсытэце адбылася лекцыя, зладжаная Т-вам Прыяцеляў Беларусаведы пры У. С. Б. Лекцыю на тэму: „Барацьба за Смаленск“ прачытаў д-р Чарнецкі, які выявіў выразна галаўнейшыя мамэнты вайны беларускае шляхты й Маскоўскага гаспадарства за Смаленск. Лектар прадставіў апрача гэтага фон эканамічных і сацыяльна-палітычных суадносінаў на тэрыторыях, уцягненых у вайну, што было, між іншым, дадатна адзначана ў дыскусіі.

— **Беларускія Калядкі.** Тройчы ўжо хор грам. Шырмы выступаў з беларускімі калядными песьнямі, і кожнае выступленьне сустракалася з зусім заслужаным гарачым прызнаньнем заўсёды чысьленае публікі. Апошняе выступленьне было зроблена ў Віленскай Беларускай Гімназіі, што трэба асабліва прывітаць з увагі на тое, што слухала песьні беларускія блізу ўся Гімназія ды шмат вучняў Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі.

Трэба аддаць справядлівасьць арганізатару выступленьня і кіраўніку хору — грам. Шырме: ён у сваіх гармонізацыях здолеў выявіць усё хараство беларускай народнай песьні, вельмі багатай сваімі мэлёдыямі, і пры гэтым не зацёр характэрыстычных беларускіх адзнак яе. З гэтага гледзішча асаблівую ўвагу зварачала на сябе песьня „На Іордане“, запісаная ў Пружаншчыне і згармонізованая гр. Шырмай. Для мястовага вуха, якое адвыкла ад нашых вясковых песьняў, нейкай дзіўнай сьвежасьцяй веяла ад беларускіх калядак.

Канцэрт дапоўніла дэклямацыя беларускімі вучаніцамі вершаў, адпавядаючых вельмі добра агульнаму настрою канцэрту. Саля была поўная. Сярод прысутных быў і архіяпіскап віленскі Хвядос.

Канцэрт папярэдзіла лекцыя законавучыцеля ВБГ сьвяшч. Кульчыцкага аб жыцьці Хрыста ў Назарэце паводле даных Эвангельля.

— **Арышты сярод сэктантаў.** Як падае „Słowo“, „апошнімі днямі ў наваградзкім і валожынскім паветах зьліквідаваны некалькі сэкт (хіба арганізацый?) баптыстаў і годуроўцаў“. Абшарніцкая газэта за прычыну арыштаў падае тое, што нібы то сябры іх „займаліся камуністычнай агітацыяй“.

Што за дзіва: грам. Луцкевіча абвінівацельны акт на працэсе Грамады вінаваціў у „камунізьме“—між іншым і на тэй падставе, што Луцкевіч перакладаў на беларускую мову... Эвангельле! І гэта—нікога ня дзівіла...



## Ціт задаволіць новы быт.

Паглядзеце вы на Ціта:
Вынес ён у хлеў карыта
І падсьвінкаў і сьвіней
Выгнаў з хаты і з сяней.
Узяўшы дзетак на падмогу,
Палажыў сяк-так падлогу —
Не на жарты, мусіць, Ціт
Стаў заводзіць новы быт.

На ўсю зіму, вось на гэту,
Ціт наш выпісаў газэту —
Хоча ведаць, як відаць,
Што на сьвеце дзе чуваць.
Перад дочкамі й сынамі
Ціт ня лаецца па „маме“,
Ня лупцуе жонкі Ціт:
Ён заводзіць новы быт.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Не з апошніх Ціт і ў полі:
Перайшоў ён на шматпольле —
Сее рэпу й буракі.
А растуць жа! Як гаршкі.
Быў узгорак там, як бубен,
Але Ціт пасеяў лубін,
Дык,— ці веры вы дасьце?
Як чарот жытцо расьце!

Тодар, Ян, Язэп, Мікіта!
Чым вы горшыя за Ціта?
Дык пачнеце-ж, як і Ціт,
Вы заводзіць новы быт!

Крапіва.

(Зб. „Асьцё“).

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22